# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

**Сусьветнае сеціва:** ***e-krama.com, pahonia.com***
**Электронны адрас:** ***viestki@mail.com***
✉ ***P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 5 (627)**
**Травень 2018 г.**


## Чарнобыльскі мітынг на Мангэтане

У чацьвер 26-га красавіка на Мангэтане, перад будынкам штабкватэры ААН на Першай авэню, прайшоў мітынг пратэсту супраць палітыкі рэжыму Лукашэнкі ў дачыненьні да праблемаў Чарнобыльскай бяды і адначасна мітынг салідарнасьці з тымі, хто дасюль жыве на забруджаных радыяцыяй абшарах і з тымі, хто выступае супраць будаўніцтва атамнай электрастанцыі ў Астраўцы, супраць закрытасьці й сакрэтнасьці, якой аточанае гэтае будаўніцтва. Мітынг ладзіўся Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня” і быў прымеркаваны да 32-й гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі.

Удзельнікі мітынгу сабраліся ў Ральф-Банч парку каля сядзібы ААН, трымаючы бел-чырвона-белыя сьцягі й плякаты, у якіх адлюстроўвалася тэматыка мітынгу. Перад удзельнікамі выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка. Ён нагадаў прысутным падзеі, што адбыліся 26-га красавіка 1986 году, калі адбыўся пажар і выбух на 4-м энэргаблёку Чарнобыльскай атамнай станцыі, пасьля чаго радыяктыўныя рэчывы з хмарай дыму і часьцінак, што ўтварыліся ў выніку пажару, былі расьцярушаныя на вялікіх абшарах, пераважна ў Беларусі. Каля чвэрці тэрыторыі было забруджана да ўзроўняў, што ўяўлялі пагрозу для здароўя людзей. Савецкія ўлады спрабавалі схаваць маштаб і наступствы катастрофы, але праўда выйшла наверх. Пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі праўду зноў сталі хаваць, і тыя, хто спрабаваў данесьці яе да людзей, як прафэсар Юры Бандажэўскі, апынуліся за кратамі па сфабрыкаваных падставах. Цяпер Астравекая АЭС, якая будуецца нібыта для энэрганезалежнасьці Беларусі, намсамрэч яшчэ шчыльней прывязвае Беларусь да расейскага энэргетычнага сэктару і ставіць яе ў яшчэ большую залежнасьць ад расейскай палітычнай кан’юнктуры. Будова праходзіць без грамадзкага нагляду, падчас яе ўжо адбылося некалькі аварыяў, у тым ліку пашкоджаньне рэактару падчас ягонага мантажу, і нядаўні пажар на шчытавым разьмеркавальніку. Міжнародныя арганізацыі паказвалі на хібы і недахопы ў плянаваньні й будаўніцтве, аднак будоўля дасюць праходзіць фактычна ў сакрэтным рэжыме, без празрыстасьці й грамадзкага кантролю.

Прысутныя выказалі свой пратэст супраць будовы АЭС і заявілі пра салідарнасьць з пацярпеўшымі ад Чарнобылю і з тымі, хто цяпер пратэстуе супраць Астравецкай АЭС. Падчас мітынгу прысутныя хадзілі па пляцоўцы праз вуліцу перад будынкам ААН, выгукаючы лёзунгі “Жыве Беларусь”, “ No To New Chernobyl!”, “Belarus –YES, Lukashenka – NO”, “Lukashenka Got To Go!” Мінакам раздаваліся ўлёткі пра мэты акцыі.

***Віталь ЗАЙКА***



# Красавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 14 красавіка, у Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы красавіцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня “Пагоні” сп. Віталь Зайка распавёў пра нядаўнія імпрэзы арганізацыі, пра сьвяткаваньне 100-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Прамоўца таксама спыніўся на кшталтах дзейнасьці “Пагоні”, на яе мэтах і прынцыпах. Ён распавёў пра маючыя адбыцца імпрэзы Згуртаваньня “Пагоня”.

Затым перад прысутнымі выступіў юрыст сп. Яўген Красноў, які распавёў пра юрыдычныя падставы і патрэбы рэгістрацыі й вядзеньня бізнэсу, формы камэрцыйных агранізацыяў (LLC, corporation) і спосабы іх адкрыцьця, а таксама пытаньні рэгістрацыі гандлёвай маркі, статус незалежных кантрактараў, заключэньне дамоваў і шэраг іншых пытаньняў. Сп. Я. Красноў адказаў на пытаньні прысутных.

Сп-ня Ганна Шарко выступіла з інфармацыяй пра вынік збору сродкаў на лячэньне дзяўчынкі, для якой былі арганізаваныя інфармаваньні патэнцыйных дабрадзеяў і дабрачынныя лятарэі. Яна таксама адзначыла, што сёньня мелася прыйсьці адвакатка Аліна Кац, якая займаецца пытаньнямі іміграцыйнага права, а таксама маёмаснымі пытаньнямі й асабістымі пашкоджаньнямі. І хоць яна не змагла прыйсьці дзеля праблемаў са здароўем, да яе можна запісацца на бясплатную кансультацыю. На наступны сход выказаў згоду прыйсьці адвакат па іміграцыйных пытаньнях сп. Гарт Гол (Garth Hall).

Затым з гутаркай выступіў сп. Іван Сьпірыдонаў, які працуе цяпер інтэрнам у Арганізацыі Аб’еднаных Нацыяў, а таксама мае ў Польшчы (Гданьск) фірму старт-ап па абароне інтэлектуальнай уласнасьці і патэнтах. Прамоўца распавёў, як ён зарганізаваў у Летуве (Кляйпэда) сацыяльную грамаду Hand to Hand Development, і таксама ўдзельнічаў у аксэлератары-пясочніцы ідэяў у Польшчы і заняў другое месца на конкурсе ідэяў, атрымаў стыпэндыю на разьвіцьцё – 30 тысяч злотых, арганізаваў старт-ап. Ідэя, зьвязаная з валідатарамі і кодамі, якія нясуць гісторыю тавару, праз якія можна адсочваць тавары і выяўляць падробкі. Сп. Сьпірыдонаў сказаў, што зьбіраецца выйсьці на фармацэўтычную кампанію Пфайзэр з прапановаю аб адсочваньні тавару. Затым ён распавёў пра інтэрнатуру ў ААН, і як патрапіў на яе, які досьвед залічваецца для гэтага, і якія іншыя ўмовы патрэбныя для таго, каб быць прынятым.



Пасьля ў разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы і паведамленьні аб наступных імпрэзах і, пасьля сканчэньня афіцыйнай часткі, сябры “Пагоні” і госьці мелі магчымасьць калегавацца пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

# Сустрэча з паэтам Андрэем Хадановічам

У суботу 21-га красавіка адбылася сустрэча зь вядомым беларускім паэтам і перакладчыкам Андрэям Хадановічам. Сустрэча прайшла ў кавярні Brooklyn Commons у Брукліне, на Атлянтык авэню. Сп. Хадановіч прыехаў у ЗША па запросінах Амэрыканскага ПЭН-цэнтру для ўдзелу ў шэрагу літаратурных імпрэзаў.

У нефармальных абставінах, за кубкам кавы прысутныя на сустрэчы пачулі пра ўражаньні паэта ад горада Нью-Ёрку – сталіцы сьвету, пра літаратурны працэс у Беларусі й ягоныя асаблівасьці апошняга часу, пра новыя публікацыі й перакладчыцкія праекты, у тым ліку пра перакладаньне твораў Сьвятланы Алексіевіч і амэрыканскай прозы па-беларуску ў сэрыі “Амэрыканка”, што фундуецца праз збор сродкаў на сеціўным краўдфандынгавым сайце “Талака”. Там ужо выйшлі кнігі Чака Паланіка, Маргарэт Этвуд, Чарльза Букоўскага, Кэна Кізі. Сп. Хадановіч закрануў таксама пытаньне дзіцячай літаратуры і паэзіі для дзяцей. Ён распавёў гісторыю сайго перакладу “Гісторыі пра Біла і Болу” і таксама верша “Чаму рыпяць арэлі”. Затым паэт прачытаў свае вершы з апошняга паэтычнага зборніка “Дэжавю”, калядныя рэп-вершы і верш-рэакцыю “Беларускія мужчыны”. Паэт пашкадаваў што ня змог захапіць з сабою сваіх кнігаў, каб падпісаць аўтографы, бо прыехаў у Нью-Ёрк ня з дому, а з Кракава, але выказаў падзяку ўсім, хто прыйшоў на сустрэчу, і спадзеў, што яшчэ сустрэнецца зь беларусамі Нью-Ёрку. Сп. А. Хадановіч ужо другі раз у ЗША, але раней яму не ўдавалася патрапіць у Нью-Ёрк. Наступным амэрыканскім горадам у яго празь дзень быў заплянаваны Бостан.



***Віталь ЗАЙКА***

# Пакуль б'ецца гэтая крыніца, мы не памром

Беларусы Амэрыкі ў 2018 годзе адсьвяткавалі 100-годзьдзе стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі 24 сакавіка на Мангаэтане, а 25 сакавіка ў Нью-Брансўіку. Народу прыйшло столькі, што ў залі не хапала месца ўсім прысутным, даводзілася прыносіць з файе крэслы, уціскаючы тых, хто ўжо заняў месцы за сталамі.

Пра тое, як праходзілі сьвяты, пісалі ўжо ў інтэрнэце, газэце "Беларус" і бюлетэні "Весткі й Паведамленьні", але мне хочаца зьвярнуць увагу не на афіцыйныя часткі выступленьняў ды віншаваньняў, а на канцэрце, што абываўся падчас сьвята ў нью-джэрзійскім гатэлі "Гаят Рыджэнсі" й мастацкай выставе, прысьвечаным гэтай падзеі.



Калі, нарэшце, удалося рассадзіць усіх прысутных за сталамі, на сцэну выйшаў знакаміты кампазытар Яўген Магаліф. Ён выканаў некалькі лірычных песень, сярод якіх былі "Туманы" на словы Сокалава-Воюша і ў ягоным жа перакладзе з расейскай мовы "Белыя лебядзі".

Наступным выступоўцам быў бард, паэт і пісьменьнік Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён прасьпяваў вядомую ўсім песьню "Аксамітны летні вечар", затым "Сьвечкі" і, зьвязаную зь нядаўнімі падзеямі ва Ўкраіне, "На Майдан", і дадаткова па просьбе слухачоў " Фронт" ды "Ля готыкі сьвятой Ганны" ці, як перайменаваў яе народ, "Чароўная Ганна".

Калі прысутныя ўжо настроіліся на канцэрт, на сцэну выйшла трыё сям'і Казакоў. Вольга Казак-Анлар засьпявала гімн ЗША. Думаю, што лепш за яе ніхто яго не сьпявае. Яе ж бацька Алесь Казак так выканаў "Магутны Божа" на словы Натальлі Арсеньевай, што ад ягонага голасу скалануліся ня толькі нашыя сэрцы, а й сьцены. Затым прагучаў шэраг палескіх песень, аранжыроўку для якіх зрабіла Воля, захаваўшы пры тым старажытную манэру выкананьня ды народны дух: рэкруцкая песьня "Ой жа, мама, маменька, прыйшла восень ранелька" й акапэльная песьня ў выкананьні Алеся й Валянціны "Ды пшанічанька яра". А пад загукальную веснавую песьню "Ці дазволіця старыя людзі вясну загукаці" прысутныя выйшлі з-за сталоў перад сцэнай, і я павяла іх у вясёлым карагодзе, калі ў канцы кожнага слупка карагоднікі ўскідвалі ў гару рукі з зычным поклічам: "Гу-у!!!". Пры песьні "А ў лесе ў лесе ды на верасе / Вясна красна на ўвесь сьвет" я, як вядучая карагоду, павяла тых, хто танчыў, "ручайком" у спалучэньні з "крывым танком", пры тым пасьля кожнага куплету салістаў, хор танцуючых дружна падпяваў: "Вясна красна на ўвесь сьвет!"

Параўнацца з тым як сьпявае фальклёрныя песьні трыё Казакоў па сіле й прыгажосьці гучаньня ды пранікнёнасьці ня зможа, бадай, ніхто з нашых сучасьнікаў. Беларускім эміґрантам у ЗША вельмі пашчасьціла, што хоць на самыя вялікія сьвяты яны маюць мажлівасьць пачуць сьпевы гэтага трыё.

Але вельмі ўзрушыла й зьдзівіла ўсіх прэм'ера песьні, словы да якой, ня будучы паэткай, напісала сама Валянціна Пархоменка, а музыку – яе дачка Вольга Казак-Анлар. Песьня гэтая зьвязаная з радзімаю Валі, яна нарадзілася й жыла ў вёсцы Каменка Чачэрскага раёну, дзе прабягала побач рэчка з такою ж назваю. Бабуля Валянціны Кацярына, якая была сапраўдную скарбонкаю беларускага фальклёру й пражыла 104 гады, называла сваю ўнучку галасушкай. Аднойчы, калі Валянціцы было гадкоў пяць, бабуля прывяла яе да крыніцы ў зялёным лузе проста пад ярам, на вышыні якога красаваўся велічны сасновы бор, і сказала: "Як стане табе цяжка ў жыцьці, ідзі да гэтае крыніцы, абмыйся ў ёй, і яна забярэ ўсё худое й дасьць табе новую сьветлую сілу. Пакуль б'ецца гэтая крыніца й дае нашым сэрцам і душам гэткую чыстую моц, мы не памром."

Праз шмат гадоў прыехала Валянціна ў сваю родную вёску, і сэрца яе зайшлося ад болю. Не пазнаць роднай вёсачкі. Перасяленцы з іншых вёсак жывуць і ходзяць там. Няма й хаты бацькоў. На тым месцы, дзе яна стала, зруйнаваная, паросшая дрэвамі, зямля. Нават родны брат не палічыў патрэбным паведаміць ёй, што адбылося з іхнай роднай сядзібай.

Засталася толькі тая крыніца ў лузе пад абрывам сасновага бору. І пайшла Валянціна да той гаючай крыніцы, каб суняць свой боль пякучы й сваё гора, павалілася ў траву, задумалася. Так і нарадзілася тая песьня:

Мне ў дзяцінстве бабуля
Расказала легенду пра крыніцу,
Што ў лузе пад абрывам зьвініць.
Я вады напілася з той крыніцы-жывіцы
І ў душы зазьвінелі песьні роднай зямлі.

І куды я ня еду, і куды я ня йду,
Але тую крыніцу я забыць не магу,
Пераліў яе струнны, смак сьвятой той вады –
Непаўторную сілу беларускай зямлі.

Я прыеду пад вечар пасьля дальніх дарог,
Пакланюся й прысяду на бацькоўскі парог,
Упаду ля крыніцы у густую траву,
Успаміны закружаць туманом галаву.

І душа паляцела ў той казачны час,
Калі лепшыя песьні закалыхвалі нас.
Не хачу прачынацца, каб імгненьне спыніць,
Там хачу я застацца, вечнай песьняю плыць.

Як засьпявала Валяньціна гэтую песьню, то мала хто са слухачоў змог стрымаць ў вачох сьлёзы, але можна быць упэўненымі, што сэрцы ўсіх плакалі разам з намі.

Гэта ж якія гады так подла павысялялі тутэйшых вяскоўцаў і пагналі ў чужыя такія ж забруджаныя вёскі, зруйнавалі іхныя хаты, засыпаўшы зямлею, маўляў радыяцыя, а на іхныя месцы прыслалі людзей з іншых, пакрытых зпавешчай радыяцыяй паселішчаў? Здавалася б: "Дзе ж лёгіка?" А лёгіка ёсьць. Яна навідавоку. Гэта ж самы просты спосаб зьнішчыць вясковую нацыянальную культуру, традыцыі й звычаі, каб забыліся, хто й адкуль мы ўсе. Зьнішчэньне мікратапанімікі – гэта зьнішчэньне адзінства нацыі, зьнішчэньне народу.

Калі такія загады па перасяленьні людзей аддаваў урад, то туды трапілі альбо бязмозглыя, альбо, папрасту, варожыя элемэнты нашага грамадзтва, мэта якіх зьнішчыць беларусаў як нацыю. І тут напрошваецца пытаньне: ці беларускі ўрад кіруе ў Беларусі?

**Валянціна ЯКІМОВІЧ**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## We don’t need no education

Кантакт з амэрыканскай вышэйшай адукацыяй дапамог пераканацца ў тым, што ў заходнім сьвеце “academia is dead”. Прычым працэсы паўраспаду пачаліся тут нашмат раней чым у Эўропе. Ведаю, бо прабадзяўся праз акадэмічныя асяродкі ад Цэнтральнай Эўропы, праз Заходнюю, урэшце трапіўшы ў клясычны, далёка ня самы “прагрэсіўны” амэрыканскі каледж... Калі мне, як прыхадню-госьцю, яшчэ шмат што выбачалася – заўсёды можна было спаслацца на няведаньне – то мясцовыя выкладчыкі вельмі добра засвоілі акадэмічны жаргон-навамову і цалкам паддаліся самацэнзуры. Размовы пра палітыку і нават выказваньне поглядаў на штодзённую рэчаіснасьць падчас заняткаў цяжка было ўявіць. Свой пункт гледжаньня, калі ўявіць, што ён наогул у выкладчыкаў яшчэ застаўся, выказваецца выключна ў нейкай прыхаванай форме. На выкладчыкаў увесь час паступаюць скаргі ад студэнтаў, якія абвінавачваюць іх у прадузятасьці і расізме, на якія трэба доўга справаздачыцца ў кіраўніцтва каледжа. Што гаварыць пра заняткі, калі нават у прыватных адносінах пазьбягаюцца размовы на складаныя тэмы. На барбэк’ю і іншых сацыяльных імпрэзах гутарка звычайна ідзе пра надвор’е, ежу, дыету і іншыя больш-менш бясьпечныя-нейтральныя тэмы.




Выкладчыкі, ня самыя дурныя людзі, адчуваюць розныя гістарычныя павевы, таму выбіраюць унутраны і матэрыяльны спакой, а ня клопаты і канец кар’еры. У акадэмічным асяродзьдзі, нават на тых каледжах, якія маюць умоўна рэлігійна-кансэрватыўны ўхіл, пануе выключна адна ідэалёгія і альтэрнатывы гэтаму становішчу фактычна няма. Хіба што не паступаць і не атрымліваць вышэйшую адукацыю. Таму так часта сёньня сустракаеш больш-менш адэкватных людзей, я не кажу пра погляды, а пра звычайную магчымасць весьці аргумэнтаваны дыялёг, як раз сярод тых, у каго, па той ці іншай прычыне, не было часу ці сродкаў, каб здабыць унівэрсытэцкі дыплём. Тыя, што прайшлі праз гэтую мясарубку, звычайна выходзяць з засвоеным жаргонам, гавораць слоганамі і фактычна ня здольныя да ніякага крытычнага мысленьня, някажучы ўжо пра самастойныя разважаньні. Пра гэта сьведчаць назвы дыплёмных працаў, якія прыкладна з 2015-га году, зрабіліся пераважна ідэалягізаванымі. Цытаваць іх ня буду, дастаткова пайсьці на старонку любога выбранага ўнівэрсытэту-каледжу ў Эўропе ці ў ЗША, ужо ня мае значэньня. Умоўна кажучы, прырост дамінуючых сёньня тэмаў прапарцыйна адпавядаў зьмяншэньню колькасьці працаў пра Шэксьпіра. Але гэткі стан рэчаў быў бы немагчымы, калі б усё гэта не пачыналася нашмат раней, зь сярэдняй школы, і нават зь дзіцячага садка. Таму якраз ціск ідзе на тое, каб адпаведныя праграмы ўкараняць на самай раньняй ступені адукацыі. Для іх гэта што называецца to be or not to be.

**Віталь ВОРАНАЎ**

**Наступны сход** **Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца ў суботу **12-га траўня 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House**, **123 East 15th Street, New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара. ***На сходзе плянуецца прэзэнтацыя юрыста, які займаецца іміграцыйным правам.***

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

А. Агееў ....60
А. Бірук ....60
П. Бойка ....60
Т. Бужынская ....60
А. Волкава ....60
А. Гаршкоў ....60
М. Дзікун ....60
А. Драваіца ....60
К. Жукоўская ....60
Д. Жылінскі ....60
А. Забродскі ....60
В. Змушка ....60
А. Зыль ....60
А. Касяк ....60
К. Крычоўцова ....60
Н. Кузьмінчук ....60
А. Кузьмянкоў ....60
А. Малчанаў ....60
М. Можджар ....60
С. Мядзьведзеў ....60
І. Петрушэнка ....60
А. Сідар ....60
Я. Сідар ....60
Д. Скрабец ....60
А. Талочка ....60
А. Тырля ....60
Л. Урублеўская ....60
А. Хвасько ....60
Д. Хмара ....60
А. Юзафовіч ....60
А. Якубенка ....60

**Усім шчыры дзякуй!**

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

В. Кузьменка ....50
А. Агееў ....30
В. Балашчэнка ....30
А. Бірук ....30
П. Бойка ....30
Т. Бужынская ....30
А. Волкава ....30
І. Галавашка ....30
А. Гаршкоў ....30
А. Драваіца ....30
Д. Жылінскі ....30
А. Забродскі ....30
В. Змушка ....30
А. Зыль ....30
А. Касяк ....30
К. Крычоўцова ....30
А. Кузьмянкоў ....30
А. Малчанаў ....30
М. Можджар ....30
С. Мядзьведзеў ....30
І. Петрушэнка ....30
Д. Скрабец ....30
А. Сідар ....30
Я. Сідар ....30
А. Талочка ....30
А. Тырля ....30
Л. Урублеўская ....30
А. Хвасько ....30
Д. Хмара ....30
А. Юзафовіч ....30
А. Якубенка ....30

**Шчыры дзякуй!**